# Шырэй разгарнуць грамадска-культурную працу

## (З даклада старшыні ГП БГ-КТ Аляксандра Давідзюка)

*(Працяг са стар. 2)*

чыне маем 116, з таго ліку ў Гайнаўскім павеце — 41, у Беластоцкім — 31, у Бельскім — 22, у Сакольскім — 14 і ў Семятыцкім — 8. Агулам, у пачатковых школах беларускай мове вучыцца 8.861 вучняў.

### ШТО ТРЭБА РАБІЦЬ?

«Зыходзячы з патрэб беларускага насельніцтва Беларускае грамадска - культурнае таварыства павінна:

1) У галіне палітычнай працы — усю сваю дзейнасць накіраваць у напрамку ўмацавання народна - дэмакратычнай улады ў Польшчы. Уся дзейнасць павінна служыць справе соцыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне. БГ-КТ павінна выхоўваць беларускае грамадства ў духу пралетарскага інтэрнацыяналізма, у духу глыбейшага азнаямлення беларускага насельніцтва з традыцыямі рэвалюцыйнай барацьбы беларускага і польскага народаў. Неабходна разгарнуць сістэматычную працу ў галіне азнаямлення беларускага насельніцтва ў Польшчы з дасягненнямі гаспадарчага і культурнага жыцця братняй Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі. Патрэбна праводзіць шырокую растлумачальную работу аб палітыцы Польскай Аб'еднанай Рабочай партыі і польскага ўрада ў адносінах да нацыянальных меншасцей. Аднак трэба быць пільным на праявы беларускага нацыяналізма.

Беларускае грамадска-культурнае таварыства павінна падтрымліваць і развіваць дружнае супрацоўніцтва з братнімі таварыствамі ўсіх нацыянальных меншасцей.

2) У галіне эканамічна - грамадскай дзейнасці — неабходна глыбей зацікавіцца гаспадарчым развіццём раёнаў Беласточчыны, у якіх пражываюць беларусы. Тут трэба, між іншым, дакладна вывучаць таксама мясцовыя эканамічныя рэзервы і садзейнічаць іх лепшаму выкарыстанню. Інспіраваць адпаведныя ўлады дзеля развіцця кааператыўнага руху.

БГ-КТ павінна шырэй чым дагэтуль заняцца арганізаваннем уласнай гаспадарчай дзейнасці з мэтай забеспячэння сабе матэрыяльнай базы.

### У ГАЛІНЕ АСВЕТЫ

Мэтай БГ-КТ з'яўляецца каб у кожнай беларускай вёсцы, дзе яшчэ няма беларускіх школ беларуская мова выкладалася як абавязковы прадмет. У сувязі з гэтым БГ-КТ павінна абавязкова супрацоўнічаць з асветнымі ўладамі, а таксама праводзіць шырокую ўсведамляючую працу сярод бацькоў.

БГ-КТ павінна садзейнічаць правільнай кадравой палітыцы ў галіне асветы, праяўляць канкрэтнае зацікаўленне ўмовамі працы беларускіх школ і настаўнікаў, а таксама звяртаць увагу на ўзровень працы школ.

БГ-КТ павінна развіваць іншыя формы народнай асветы, як курсы беларускай мовы для насельніцтва, народныя універсітэты. Павінна ўсебакова прывіваць любоў і пашану да беларускай мовы. БГ-КТ павінна цікавіцца, таксама, арганізаваннем урокаў беларускай мовы ў прафесіянальных і іншых школах, дзе навучаюцца беларускія дзеці.

Абавязкам БГ-КТ з'яўляецца пастаянная ўвага росту кадраў высокакваліфікаваных спецыялістаў. У сувязі з тым БГ-КТ павінна цесна супрацоўнічаць з Міністэрствам Вышэйшых навучальных установаў і іншымі ўстановамі з мэтай забеспячэння адпаведных умоў для павялічэння кадраў па беларускай філалогіі, як і іншых спецыяльнасцях.

БГ-КТ павінна праяўляць максімальную зацікаўленасць справе друку і распаўсюджвання падручнікаў для беларускіх школ, а таксама ўстанаўленню падынспектараў школ ведаючых беларускую мову.

Справа беларускай асветы з'яўляецца на сучасным этапе асноўным у працы БГ-КТ.

### У ГАЛІНЕ НАВУКІ

БГ-КТ павінна пашыраць і ўмацоўваць творчыя сувязі з адпаведнымі спецыялістамі розных галін ведаў, якія датычаць беларускай мовы і літаратуры, гісторыі, геаграфіі, эканомікі, культуры і мастацтва і г. д. БГ-КТ павінна ствараць названым спецыялістам умовы ўключыцца ці садзейнічаць у працы Таварыства замест антыінтэлігенцкіх праяваў, якія пакутавалі ў адносінах да гэтай працы ў некаторай часткі нашых адказных працаўнікоў.

Лічыць важнай і тэрміновай справай вывучанне гісторыі беларускага насельніцтва ў Польшчы, гісторыю партызанскай барацьбы беларускага насельніцтва супраць гітлераўскіх захопнікаў, ахова памятнікаў нашай гісторыі і гд.

### У ГАЛІНЕ ВЫДАВЕЦКАЙ

БГ-КТ павінна і далей прыкладаць намаганні да павышэння ўзроўню і распаўсюджвання «Нівы». Акрамя таго выключна важнай справай з'яўляецца арганізаванне выдавецтва, якое занялося-б выдаваннем беларускай мастацкай, дзіцячай і папулярнай літаратуры.

БГ-КТ павінна прылажыць старанні да арганізавання выпуску беларускага грамадска - палітычнага і літаратурнага часопіса (месячніка або квартальніка) у Польшчы.

### У ГАЛІНЕ КУЛЬТУРЫ

БГ-КТ павінна разгарнуць шырэйшую працу ў галіне стварэння кадры работнікаў культуры, якія-б ведалі спецыфіку працы сярод беларускага насельніцтва (інструктараў дамоў культуры, бібліятэкараў і гд.). Абавязкам БГ-КТ з'яўляецца ў значнай меры больш чым дагэтуль развіваць канкрэтныя матэрыяльныя ўмовы для дзейнасці беларускіх гурткоў мастацкай самадзейнасці на вёсках. БГ-КТ не павінна праяўляць празмернага дырыжыравання працай гэтых гурткоў гэта магло-б абмежаваць іх ініцыятыву. Агульна яно аднак павінна кіраваць працай гурткоў, павінна накіроўваць працу гурткоў у акрэсленым мастацкім і ідэйным напрамку.

Важным напрамкам дзейнасці БГ-КТ у галіне культуры з'яўляецца шырокае распаўсюджванне беларускай мастацкай літаратуры і беларускіх савецкіх часопісаў. У сувязі з гэтым БГ-КТ павінна зацясніць супрацоўніцтва з прадпрыемствам «Рух» і «Дом Кнігі», каб як найбольшая колькасць кніжак і часопісаў папала пад беларускую страху.

БГ-КТ павінна прылажыць намаганні да стварэння беларускага тэатра ў Беластоку і беларускага рэгіянальнага музея ў Белавежы. БГ-КТ павінна наладзіць цеснае супрацоўніцтва з прадпрыемствам «Польске Радыё» з мэтай арганізавання радыёперадач на беларускай мове ў Беластоку і тых мясцовасцях, дзе пражывае беларускае насельніцтва. БГ-КТ павінна аказаць дапамогу ў забеспячэнні радыёперадач на беларускай мове неабходнымі матэрыяламі і падабраць адпаведную кадру на гэтым полі дзейнасці.

Беларускае грамадска-культурнае таварыства павінна праявіць значна больш зацікаўлення праблемамі беларускага насельніцтва, пражываючага на Заходніх Землях. Неабходна ўмацаваць Аддзел у Шчэціне, а таксама пашырыць дзейнасць Таварыства на іншыя раёны (Ольштынскае, Уроцлаўскае, Зялёна - Гурскае і іншыя ваяводствы). Галоўнае Праўленне павінна аказваць беларусам на Заходніх Землях асаблівую дапамогу, улічваючы спецыфіку іх асяроддзя і ўмовы арганізацыйнай працы.

### МЕТАДЫ АРГАНІЗАЦЫЙНАЙ ПРАЦЫ

Існуючая арганізацыйная структура Таварыства на аддзелы і гурткі, на наш погляд, з'яўляецца правільнай. Неабходна як найхутчэй запэўніць сродкі актывізацыі аддзелаў і гурткоў.

Лічым, што актывізацыя аддзелаў і гурткоў Таварыства павінна ісці не шляхам камандавання зверху, а апірацца на агульным палітычным і метадалагічным кіраўніцтве, пры адначасовым, як найшырэйшым забяспечванні матэрыяламі і іншымі сродкамі, неабходнымі для развіцця дзейнасці гурткоў. Такі метад будзе выклікаць зацікаўленне да працы і разбуджаць ініцыятыву ў актыве. Роля Галоўнага Праўлення павінна абмяжоўвацца да фактычнага кіраўніцтва працай усіх аддзелаў і гурткоў. Таму важнай справай з'яўляецца пакліканне да жыцця Беластоцкага Аддзела БГ-КТ, што несумненна будзе садзейнічаць палягчэнню працы Галоўнага Праўлення.

Стыль працы Галоўнага Праўлення трэба абавязкова неадкладна змяніць. Трэба раз назаўсёды пакончыць з бюракратызмам, які праяўляецца ў дагэтуляшняй працы Г. П. Галоўнае Праўленне толькі тады будзе паспяхова выконваць свае заданні, калі будзе апірацца і супрацоўнічаць з шырокім актывам Таварыства. Неабходна, як найхутчэй распачаць сапраўднае супрацоўніцтва з настаўнікамі, беларускай інтэлігенцыяй.

Абавязкам Прэзідыума Галоўнага Праўлення з'яўляецца, безумоўна, ажыццяўленне пастаноў З'ездаў і Пленумаў Таварыства, так як, яны з'яўляюцца вярхоўнай уладай Прэзідыума ГП. Прэзідыум Галоўнага Праўлення абавязкова павінен працаваць згодна са статутам БГ-КТ і не дапускаць да парушэння яго. Працу Прэзідыума Г. П. павінна характарызаваць поўная калегіяльнасць. Трэба раз назаўсёды пакончыць з праявамі самаволі ігнаранцтва рашэнняў Пленумаў БГ-КТ, што дагэтуль, на жаль, часта сустракалася.

*Нававыбранае Галоўнае Праўленне БГ-КТ.*

# Галоўнае Праўленне

## Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы

### выбранае II-ім Краёвым З'ездам БГ-КТ 30 сакавіка 1958 г.

1) Яхім Алексін
2) Язэп Альшэўскі
3) Уладзімір Аніська
4) Міхась Артышэвіч
5) Уладзімір Арцямюк
6) Пятро Бадавец
7) Георгі Валкавыцкі
8) Мікола Гайдук
9) Алесь Грэсь
10) Аляксандр Давідзюк
11) Макар Дземяновіч
12) Алесь Дзярманскі
13) Мікола Калядка
14) Васіль Кардзюкевіч
15) Уладзімір Карпенюк
16) Яраслаў Кастыцэвіч
17) Піліп Кізевіч
18) Сяргей Крэйза
19) Якуб Куршэль
20) Уладзімір Кучынскі
21) Віктар Лабкоўскі
22) Васіль Літвінчык
23) Кастусь Майсеня
24) Лявон Майсеюк
25) Янка Мацеюк
26) Міхась Насовіч
27) Барыс Нікіцюк
28) Янка Палоцкі
29) Мікола Парфенюк
30) Мікола Перута
31) Пятро Пятручук
32) Уладзімір Пучынскі
33) Янка Рубчэўскі
34) Максім Рудчык
35) Васіль Сайнота
36) Мікола Самоцік
37) Рыгор Скарынкевіч
38) Уладзімір Станкевіч
39) Люба Сыч
40) Мікола Тарасевіч
41) Анастасія Тропак
42) Юры Туронак
43) Кастусь Хлябіч
44) Віктар Швед
45) Сямён Шыманюк

### СКЛАД

### Прэзідыума Галоўнага Праўлення Беларускага грамадска — культурнага таварыства, выбранага на пленарным пасяджэнні ГП БГ-КТ 30 сакавіка 1958 г.

1) Уладзімір Станкевіч — старшыня
2) Аляксандр Давідзюк — намеснік старшыні
3) Піліп Кізевіч — намеснік старшыні
4) Віктар Швед — сакратар
5) Георгі Валкавыцкі — член прэзідыума
6) Васіль Літвінчык ,,
7) Кастусь Майсеня — ,,
8) Мікола Тарасевіч ,,
9) Юры Туронак — ,,

### Рэвізійная камісія ГП БГ-КТ

1) Фёдар Галёнка — старшыня
2) Юры Артышэвіч — намеснік старшыні
3) Аляксандр Кунах — сакратар.
4) Віктар Астравецкі — член.
5) Сямён Кузьмін — член

